



# Ніва

ГОД I № 18 БЕЛАСТОК, 1 ЛІПЕНЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.




*На рацэ Белай у Бельскім павеце.* *Фото — Ю. Лей*

## Сёння ў нумары



А. ЦЁТКА

# Вершы

## Музыкант беларускі

Заграю на дудцы,
Вытну на гармоні,
Заплачу на скрыпцы
Аб мужчыцкай долі.
Надта-ж ужо цяжка,
Душа з гора рвецца,
Слёзы так і льюцца,
Сэрца з болю б'ецца.
Ну і грай-жа, скрыпка,
Хай ляціць там песня,
Або свет пачуе,
Або душа трэсне.
Скрыпка хутка плача —
Аж лес лемантуе,
Толькі яе ноты
Сыты не пачуе.
Хаця-ж і пачуе —
Музыканта злае:
«Глядзі. ён, хамула,
Аб роўнасці бае».
Ды так сыпну смыкам,
Як агнём па струнах,
Што ад майго грання
Людзі енкнуць ў трунах.
Ну, дык плач-жа, скрыпка,
Мо' паны пачуюць,
Як хамы без хлеба,
Без страхі начуюць.
І зацяў музыка
Смыкам ды па струнах —
Пташкі задрыжэлі,
Пчолы сціхлі ў вуллях.
Музыкант галосіць,
Скрыпка не махлюе,
Хутка «хамску» песню
Увесь свет пачуе.

## Вам, суседзі

Вам, суседзі, вам, кумочкі,
Беларусы-галубочкі,
Пяю з сэрца, падцінайце,
Вы грамадай голас дайце.
Зложым песню цэлым людам.
Выйдзе пекна, стане цудам.
Як свет светам яшчэ стаў,
Такой песні не слухаў:
Восем, дзевяць... і мільён
Грудзей зльецца ў адзін тон,
Дадуць песню, а ў ёй труд.
Доля, жыцце. Ці-ж не цуд?
Ад вякоў мы, братцы, спалі,
А тут разам заспявалі.

## На магіле

На магіле ўзыйду дубам,
Пачну шаптаць братнім губам
Аб іх долі, аб свабодзе,
Стану песняй у народзе!
Пастух дудку з мяне скруціць,
Як заграе, кроў замуціць,
Як заенчыць, кожны стане:
«Што за гранне, што за гранне?
Што то будзе, што то будзе
З гэтай песні ў нашым людзе!»
Гостры зубы, як-бы з пілы,
Колюць, рэжуць, цягнуць жылы,
Смаляць, паляць, пякуць, студзяць,
Старых, малых са сна будзяць.
Як на вуглях кожны стане:
«Што за гранне, што за гранне?
Што то будзе, што то будзе
З гэтай песні ў нашым людзе!»
Ліст дубовы пад хлеб сцелюць,
Жолудзь яго ў жорнах мелюць,
А дзе з дуба хоць пылінка, —
Грудзь трасецца, як асінка;
А дзе толькі дудка свішча, —
Людзі бягуць, як на йгрышча,
Як на дзіва кожны стане:
«Што за гранне, што за гранне?
Што то будзе, што то будзе
З гэтай песні ў нашым людзе!»

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

